# У Інстытуце для Дасьледваньня Гісторыі й Культуры СССР

**АД РЭДАКЦЫІ: Нашая Рэдакцыя ўсьцяж атрымлівае пісьмы ад сваіх чытачоў з просьбамі паінфармаваць іх, што зь сябе далей прадстаўляе існуючы ў Мюнхэне й фінансаваны Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня ад Бальшавізму Інстытут для Дасьледваньня Гісторыі й Культуры СССР. Каб заспакоіць іхную, зусім зразумелую, цікавасьць ды каб разьвеіць усякія непаразуменьні і недакладнасьці аб нашых дачыненьнях з гэтым Інстытутам, мы з журналістычнага абавязку й падаём ніжэй даступныя нам інфармацыі ў гэтай справе.**

*

Ужо чатыры гады існуе ў Мюнхэне Інстытут для Дасьледваньня Гісторыі й Культуры СССР, які, згодна свайго статуту, зьяўляецца свабоднай карпарацыяй вучоных, уцёкшых з СССР, якія ставяць сабе за заданьне вывучэньне тэорыі й практыкі Савецкага Саюзу і перадачу сваіх дасьледваньняў вольнаму дэмакратычнаму сьвету. Інстытут зьяўляецца зарэгістраваны нямецкімі ўладамі й праводзіць сваю дзейнасьць пры матарыяльным падтрыманьні Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму. Пры Інстытуце існуе вялікая бібліятэка розных савецкіх публікацыяў і публікацыяў заходніх аб Савецкім Саюзе, якая ўважаецца найбагатшым на Захадзе кнігазборам ад Савецкім Саюзе. Свае і сваіх супрацоўнікаў навуковыя працы Інстытут публікуе ў сваім «Весьніку» і іншых выданьнях.

Апрача гэтага навуковая дзейнасьць Інстытуту дэманструецца на скліканых ад часу да часу навуковых канфэрэнцыях. Дагэтуль адбыліся чатыры такія канфэрэнцыі: першая канфэрэнцыя была скліканая ў Мюнхэне ў студзені 1951 году, другая ў Нью Ёрку — у сакавіку 1953 г., трэйцяя ў Мюнхэне — 15-17 жнівеня 1953 г. і чацьвертая ўзноў у Нью Ёрку — 3-4 красавіка 1954 году.

Хаця Інстытут, як паказвае ягоная назва, зьяўляецца прысьвечаны дасьледваньням гісторыі й культуры СССР і, як такі, а не які-небудзь іншы, карыстаўся й карыстаецца шырокім фінансаваньнем Амэрыканскага Камітэту, то фактычна ён займаўся да нядаўнага часу выключна дасьледваньнем або чыста расейскіх праблемаў, або праблемаў савецкіх у расейскім аспэкце. Такое кардынальнае й заўсёды актуальнае пытаньне, як нацыянальная праблема нерасейскіх народаў СССР і ў сувязі зь ёй нацыянальная палітыка Крэмля ў дачыненьні да нерасейскіх народаў ня былі дагэтуль прадметам дасьледваньняў Інстытуту. На такі дзіўна ненармальны стан зьвярнула ўвагу навет нямецкая прэса, а галоўны рэдактар шыракаведамай нямецкай газэты «Фэльксботэ» Франц Гакш у нядаўна апублікаваным адкрытым пісьме да дырэктара Інстытуту цьвердзіў наступнае: «Нашыя супрацоўнікі хацелі-б на падставе публікацыяў Вашага Інстытуту вывучыць нацыянальнае пытаньне ў Савецкім Саюзе, аднак усе іхныя спробы знайсьці адпаведныя артыкулы ў выдаваным Вамі «Весьніку» не ўкаранаваліся пасьпехам».

На такую аднабокую дзейнасьць Інстытуту пачаў адразу рэагаваць і Парыскі Блёк палітычных цэнтраў нерасейскіх народаў СССР і інтэрвеньяваць у вадпаведных амэрыканскіх дзейнікаў з мэтаю такой рэарганізацыі структуры й дзейнасьці Інстытуту, каб ён адказваў выражаным ужо ў ягонай назьве заданьням. Пасьля даўжэйшых гутарак у сакавіку сёлета было навязанае супрацоўніцтва навукоўцаў нерасейскіх народаў зь Інстытутам з тым, што на наступнай асамблеі сяброў Інстытуту, якая адбудзецца ў канцы гэтага месяца непасрэдна пасьля чарговай навуковай канфэрэнцыі, будзе праведзеная адпаведная рэарганізацыя Інстытуту.

Першым і да часу асамблеі часовым крокам у кірунку стварэньня магчымасьцяў супрацоўніцтва навукоўцаў эміграцыяў нерасейскіх народаў зь Інстытутам было пакліканьне ў сакавіку сёлета Навуковай Рады Інстытуту ў складзе сямёх асоб: 2 Расейцаў, 2 Украінцаў, 1 Беларуса, 1 Каўкасца і 1 Туркестанца. Ад Беларусаў у склад Навуковай Рады ўвайшоў др. Ст. Станкевіч. Функцыі Рады дагэтуль абмяжоўваліся да прызнаваньня стыпэндыяў навуковым працаўнікам розных нацыянальнасьцяў Савецкага Саюзу на канкрэтныя дасьледвальныя працы з савецкай праблематыкі і да апрацаваньня праграмы навуковай канфэрэнцыі Інстытуту, якая ў канцы гэтага месяца адбудзецца ў Мюнхэне.

Канфэрэнцыя на тэму «Аб сучасным палажэньні й пэрспэктывах у разьвіцьці палітычнага, эканамічнага й нацыянальнага пытаньняў у СССР» разьлічаная на тры дні. Палавіна часу канфэрэнцыі будзе прысьвечаная насьвятленьню нацыянальнай палітыкі Крэмля ў дачыненьні да нерасейскіх народаў як у вагульным маштабе, гэтак і ў разрэзе паасобных саюзных рэспублікаў Савецкага Саюзу. Між іншымі, на канфэрэнцыі будзе прачытаны й даклад на тэму «Нацыянальная Палітыка Крэмля ў Беларусі».

Гэтак завязалася напасьледак супрацоўніцтва прадстаўнікоў навукі эміграцыяў нерасейскіх народаў зь Інстытутам. Ці гэтае супрацоўніцтва замацуецца і будзе пасьпяхова прадаўжацца ўвесь час, будзе залежыць ад успомненай асамблеі, дакладней ад таго, ці Інстытут гэты фактычна станецца інстытутам усіх народаў СССР. Сяньняшнія-ж намаганьні амэрыканскага кіраўніцтва Інстытуту дасягнуць гэтага супрацоўніцтва астаецца толькі прывітаць.

**(-іч)**

**ВЫПІСВАЙЦЕ, ЧЫТАЙЦЕ Й ПАШЫРАЙЦЕ БЕЛАРУСКІЯ КНІЖКІ — — ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

# За нацыянальнае вызваленьне й сацыяльную справядлівасьць

## ДРУГІ МІЖНАРОДНЫ КАНГРЭС РАБОТНІКАЎ З-ЗА ЗЯЛЕЗНАЕ ЗАСЛОНЫ

Штрасбург — сталіца руху Задзіночанае Эўропы ўжо бачыў нямала розных міжнародных сходаў, зьездаў, канфэрэнцыяў і пад., але ў іх да гэтага часу старанна абміналі Беларусаў і Украінцаў. Каб паказаць усяму вольнаму сьвету, што такое штучнае абмінаньне народаў, якія жывуць у цэнтры Эўропы, ёсьць сьведамым самаабманам, работнікі з-за зялезнае заслоны, разам трынаццаць народаў, задзіночаныя ў Міжнародную Фэдэрацыю Хрысьціянскіх Работнікаў Уцекачоў і Эмігрантаў (паводля ініцыялаў францускага назову — ФІТКРЭ) зарганізавалі ў Штрасбургу свой другі з чаргі Кангрэс у днях між 30 красавіком і 2 траўнем з удзелам найвыдатнейшых дзеячоў хрысьціянскага сындыкальнага руху заходня-эўрапэйскіх краінаў.

Першы дзень Кангрэсу быў прысьвечаны працам у розных камісіях для падрыхтоўкі адпаведных рэзалюцыяў.

Другі дзень — 1-га траўня — распачаўся ўрачыстаю Службаю Божаю, якую адправіў а. Ван-дэ-Мале, генэральны вікары для Украінцаў каталікоў у Францыі ў саслужэньні іншых двух украінскіх сьвятароў у царкве сан Пьер-ле-Вье. Прыгожа сьпяваў украінскі хор «Сурма». Царква была поўная. Казаньне аб значэньні працы сказаў канонік Назэль, польскі душпастыр у Рубэ. Пасьля Службы Божае адбылося ўрачыстае адкрыцьцё Кангрэсу. Дэлегаты і шматлікія госьці па берагі запоўнілі прасторную залю. На абліччах усіх можна было выразна бачыць вялікае зацікаўленьне. Фотоапараты рэпартэраў і блёкноты карэспандэнтаў сьветчылі, што аб Кангрэсе прэса адазьвецца гулкім рэхам. Настрой у дэлегатаў бадзёры, бо яны не адны. Між госьцямі яны бачаць: Гастона Тэсье, старшыню Міжнароднае Канфэдэрацыі Хрысьціянскіх Сындыкатаў (МКХС) — ён-жа згадзіўся старшынстваваць на Кангрэсе, Огюстра Ваністандэль — генэральнага сакратара МКХС; Жана Альдэрса — генэральнага сакратара Канфэдэрацыі Каталіцкіх Сындыкатаў Галяндыі; Браўна — генэральнага сакратара сындыкату Альзацыі; Жана Дурана — прадстаўніка бэльгійскае Канфэдэрацыі Хрысьціянскіх Сындыкатаў; С. Ж. Кэнакіса — радніка генэральнага сакратарыяту Эўрапэйскае Рады; Ганса Гэльлера — прадстаўніка хрысьціянскага сындыкату Сааршчыны і шмат іншых.

Ад шматлікіх арганізацыяў і інстытуцыяў прэзыдыюм Кангрэсу атрымаў прывітальныя лісты і тэлеграмы. Сакратар Кангрэсу абмяжоўваецца прачытаньнем толькі важнейшых зь некалькіх дзесяткаў.

Праграма Кангрэсу была вялікая. Даклады на сындыкальныя і эканамічныя тэмы сьветчылі, што ў кіраўніцтве хрысьціянскіх сындыкатаў работнікі маюць надзейных людзей. Не пералічаючы ўсіх дакладаў, варта ўспомніць, што даклад О. Ваністэндэля аб хрысьціянскай справядлівасьці часта перарываўся бурнымі воплескамі.

Папалудні ўдзельнікі Кангрэсу аглядалі фальклёрныя паказы на стадыёне Жанны Д'Арк украінскае і эльзацкае групаў. Гэта было вымоўным паказам жыцьцёвых і творчых сілаў народу для тых, хто сьведама закрывае вочы на сапраўднае абліччa Эўропы.

Трэці дзень Кангрэсу быў прысьвечаны паважнай арганізацыйнай працы. Быў прадыскутаваны і прыняты праект статуту, прынятыя рэзалюцыі розных камісіяў і ўканцы выбрана новае бюро ў такім складзе: старшыня — Леонард Рудоўскі (Паляк), генэральны сакратар — Іван Паповіч (Украінец), першы заступнік старшыні — Язэп Шэн (Мадзяр), 2-гі заст. — Ян Фабіянэк (Славак), скарбнік — Іван Богоев (Баўгарын), сябры ўправы — Валентын Міцкевіч (Беларус), Уладзімер Нестарчук (Украінец), Юры Волозінскі (Латыш), заступнікі сяброў — Бугтэрыц (Летувіс), Давор Манзэ (Харват).

Падчас Кангрэсу кажная дэлегацыя мела магчымасьць перадаць праз радыё «Вольная Эўропа» і «Голас Амэрыкі» трохмінутовы зварот да сваіх суродзічаў на бацькаўшчыне ў роднай мове. Ад імя беларускае дэлегацыі прамаўляў а. Л. Гарошка.

Аб Кангрэсе ў Штрасбургу зьявілася нямала вестак у прэсе. Да гэтага асабліва прычынілася прэсавая канфэрэнцыя, якая адбылася 3-га траўня з удзелам францускіх, амэрыканскіх, бэльгійскіх, саарскіх карэспандэнтаў розных інфармацыйных агенцыяў і карэспандэнтаў ад нацыяў, удзельнікаў Кангрэсу.

Сваю працу Кангрэс пачаў і закончыў малітваю «Ойча наш», якую кажны адмаўляў у роднай мове. Акрамя чыста фаховае сындыкальнае працы ўдзельнікі Кангрэсу зрабілі шмат і свае нацыянальнае справы, бо-ж і адбываўся Кангрэс па клічам: «За нацыянальнае вызваленьне і сацыяльную справядлівасьць!» Трэба спадзявацца, што голас работнікаў не астанецца бяз рэха.

**Удзельнік**

# З хворай галавы на здаровую

**(Заканчэньне з 2-ой балоны)**

зьяўляюцца тымі аўтарытэтамі, якія перашкаджаюць ім падняволіць чалавека духова. Падняволіўшы чалавека эканамічна, камуністыя ня могуць яго падняволіць духова, калі чалавек яшчэ ня зрокся веры ў Бога і не адкінуў рэлігійных і агульна-маральных прынцыпаў. У гэтым сэнсе рэлігія стаіць камуністым на перашкодзе.

Красноў далей у сваім артыкуле кажа: «Рэлігійныя перажыткі ў сьведамасьці савецкіх людзей перашкаджаюць росту іх актыўнасьці, разгортваньня іх сілаў і здольнасьцяў у камуністычным будаўніцтве і, значыцца, тармозяць разьвіцьцё савецкага грамадзтва ў кірунку камунізму».

Ад падсавецкага чалавека вымагаюць, каб ён рабіў хвальшывыя сьветчаньні супраць аособ, якія трапілі ў няласку камуністых. Ад яго вымагаюць, каб ён рабіў даносы на сваіх прыяцеляў, знаёмых, сваякоў. Яго пакараюць як супольніка ў злачынстве, калі ён ня зробіць даносу. Ад дзяцей навет вымагаюць, каб яны рабілі даносы на сваіх бацькоў. Усім ведама справа Паўліка Марозава.

А што казаць аб фанатычных камуністых ды агентах НКВД — МВД? МВД, напрыклад, пасылае агентаў заграніцу, каб там даканаць забойства пэўных асоб. Гэта ўжо звычайнае забойства. Або калі сьледчы МВД пыткамі змушае чалавека прызнацца да злачынства, якога гэты чалавек ніколі не даканаў. А «тройка» МВД асуджае чалавека на сьмерць на падставе вось такіх хвальшывых доказаў. Гэта ўжо легілізаванае забойства. Рэлігія напэўна не адабрае «разьвіцьця» вось гэткай чыннасьці, і людзі, якія вераць у Бога ды застасоўваюцца да вымогаў рэлігійнай маралі, за гэткую чыннасьць не бяруцца.

Красноў займаецца, як бачым, антырэлігійнай прапагандай. Але яму самому, як і ўсім жыхаром Савецкай Беларусі ведама, што камуністыя не абмяжоўваюцца прапагандай у вадносінах да рэлігіі. У камуністычным Кітаі, у Паўночнай Карэі, у краінах эўрапэйскіх савецкіх сатэлітаў як і ў самым Савецкім Саюзе адбываецца змаганьне супраць рэлігіі сяродкамі МВД. Па сваей жорсткасьці гэтае змаганьне прыпамінае перасьледваньне першых хрысьціянаў рымскага імпэратара Нэрона. Розьніца толькі ў тым, што тады палілі на вогнішчах адкрыта, а цяпер сьвятароў, манахаў, манашак ды актыўных вернікаў ліквідуюць паціху ў падвалах МВД ці забіваюць галоднай сьмерцю ў камуністычных вастрогах ці канцэнтрацыйных лягерах.

Выканаўцы зьверскіх актаў і зьдзекаў над людзьмі вэрбуюцца зь ліку тых, што адкінулі ўплывы рэлігіі і агульналюдзкай маралі. Антырэлігійная прапаганда, якую праводзіць Красноў ды іншыя, ёсьць паміма іх волі, толькі першы крок у кірунку падрыхтоўкі такіх выканаўцаў.

**Я. Ліманоўскі**

Адгукнуцца, загамоняць
Струны ўсе яго душы.
Сэрца ў хлопчыка заб'ецца,
Сам увесь ён задрыжыць,
І сама душа, здаецца,
Усьлед звону паляціць, —
Так узрушыцца хлапчынка,
І тады нібы праз сон
Штось мільгнецца на хвілінку,
Але што — ня ўцяміць ён
І ня можа даць назовы,
Што чуваць у тых званох,
Бо ўлавіць там сэнсу мовы,
Адгадаць яе ня мог,
Але чуў ён, чуў душою
Сэрцам чуткім і жывым
У тым звоне штось такое,
Што жыло і ў ім самым.
Ды ніхто ня знаў тых струнаў,
Патайных ніцей душы,
Што злучаюць гук пярунаў
Зь немым голасам цішы,
Бо і ў тэй цішы зацятай
Ёсьць і голас і свой твар,
Рознастайны і багаты,
Поўны музыкі і чар.

Бедны хлопчык быў загнаны.
У бацькоў нялюбы сын,
Бо відочныя заганы
І меў толькі ён адзін.
Не такі, як усе дзеці,
Нейкі вырадак, дзіўны,
Нёс віну за ўсё на сьвеце,
Вінаваты бязь віны.
Зь ім і дзеці ня дружылі,
Ня прыймалі да гульні,
І ў самоце прахадзілі
Веснавыя яго дні.
І любіў ён адзіноту,
Бо так лепей было жыць:
Тут ён мог сабе ў вахвоту
Песьні пець і гаманіць.
Вось улетку дык роздольна:
Выйдзе з хаты ў поле, луг;
Цёпла ўсюды і прывольна,
Сонца многа, чысты дух.
На каменьчык сядзе ў збожжы,
Ня схісьнецца і маўчыць,
Ловіць сэрцам сьпеў прыгожы,
Як жытцо загаманіць,
Як зазвоняць, заіграюць
Мушкі, конікі, жучкі.
І галоўкай заківаюць
Засьмяюцца васількі.
Сьпеў у сэрцы адклікаўся,
І так добранька было,
Што Сымонка сам сьмяяўся,
Ўсё сьмяялася, цьвіло.
Заміраў тады хлапчынка,
І здавалася яму,
Што ён знае, як травінка
Сваю думае думу,
Што гаворыць жытні колас,
І аб чым шуміць ячмень,
І чаго сьпявае ў голас
Мушка, конік, авадзень,
Што ўгары над срэбрам жыта
Пяе жаваранак той
Так прыгожа-самавіта,
І зачым у высь блакіту
Ідзе ветрык пехатой,
У высь тую, дзе хмурынкі
Над зямлёй плятуць вянкі...
Ці-ж ня мілыя часінкі?
Ці-ж ня слаўныя дзянькі?
Замляваў увесь Сымонка,
Як увосень жураўлі
Крык музычны роняць звонка
Над прасторамі зямлі.
Шнур жывы, загнуты крукам
Ледзь чарнеецца ўгары,
І ўсё стада зь сьмелым гукам
Журавель вядзе стары;
Плыўка, згодна ходзяць крылы,
Як адно, у тахт адзін —
Пакідаюць край свой мілы,
Родны кут глухіх лядзін.
Шнур зьнікае, тоне ў багне
Мора сіняга нябёс.
У прастор і хлопчык прагне:
Там другі напэўна лёс.
І ён доўга, нярухомы,
Там стаіць і ўсё глядзіць
У край сьветлы, невядомы,
Дзе зьнікала тая ніць
Вольных пташак на ўсю зіму.
Ну, прашчайце да вясны!...
Поле, неба прад вачыма
І ўжо крыкі ня чутны.

Так і жыў ён, гадаваўся,
Бы пры сьцежцы той гарох.
Сам з сабою забаўляўся,
Бегаў, бавіўся ў палёх
І размовы вёў з жытамі,
І складаў ён песьні дню,
З матылькамі, бы з братамі,
Час дзяліў свой і гульню.

## II

Нясупыннай хваляй плыні
За парою йшла пара,
І прабіла час хлапчыне
Гнаць у поле із двара.
Ён праслухаў навучанку,
Як быць добрым пастухом,
Справіў пугу-павіванку,
Вузлы вывязаў гурком
І пагнаў авечкі ў поле
На папары і на ролі.
Ён цяпер глядзеў больш стала:
Ён — асоба пастушок,
Нават права меў на сала
І на цёплы кажушок.
Добра ў полі: волі многа
І прастору-шырыні,
Вабяць далі там малога,
Як прынадныя агні.
Што ёсьць там, за тым, унь, гаем,
Дзе зьляглі нябёс вянцы?
Новы край і край за краем
І краі ўва ўсе канцы!
І снуецца думка тая,
Каб пашырыць свой прастор;
Думка ўсюды залятае:
За сяло, за хвалі гор
І на хмаркі кіне вока,
Што, як гусанькі, плылі,
Запытае, як далёка
Тое сонца ад зямлі?
Як глыбок той прастор немы,
І ці мерыў яго хто?
І адкажа пасваему:
Вёрст напэўна будзе сто!
І яшчэ было чым міла
Тое поле хлапчуку,
Гэта тым, што дзед Курыла
Там яго трымаў руку.
Гэты дзед — настух гуртовы,
Слаўны дзед, дзядок — душа:
Гаваркі, мастак на словы,
І любіў ён малыша!
Не сьмяяўся дзед з Сымонкі,
Ня ўшчуваў яго ні-ні,
Частуваў з свае скарбонкі,
Бавіў цэлыя зь ім дні.
Забяруцца ў цень пад грушу
І гаворку распачнуць.
Тут Сымонка сваю душу
Мог прад дзедам разгарнуць,
Запытаць пра сёе-тое
Дзедку добрага свайго,
Бо Сымон ня меў спакою —
Ўсё цікавіла яго.
— Дзедка, учеш: во — сьпявае!
Ці-ж ня чуеш, дзедка? вунь!
— Гэта здань твая такая:
Адхрысьціся, хлопча, плюнь!
— Як-то здань! А ты паслухай! —
Дзед схіляе галаву,
Шапкай круглай, аблавухай
Чуць ня ўлазячы ў траву.
— Не, ня чую! — Ото дзедка!
Мусіць ты зусім аглух:

# МАНІФЭСТ

**2-ГА КАНГРЭСУ ФІТКРЭ Ў ШТРАСБУРГУ 1. V. 1954 Г.**

Мы, работнікі, што паходзім з краінаў паняволеных цяпер за зялезнаю заслонаю, пражываючыя ў вольным сьвеце:

Беларусы, Баўгары, Харваты, Эстонцы, Мадзяры, Латышы, Летувісы, Палякі, Румыны, Сэрбы, Славакі, Чэхі і Украінцы,

зарганізаваныя ў Міжнародную Фэдэрацыю Хрысьціянскіх Работнікаў Уцекачоў і Эмігрантаў (ФІТКРЭ), сабраўшыся на нашым 2-ім Кангрэсе, у днёх 30-га красавіка 1-га і 2-га траўня 1954 г. ў Штрасбургу, адзначаем сяньня 1-га траўня — дзень усіх работнікаў сьвету — сьвята працы.

У гэты дзень усе нашы думкі і жаданьні зьвернены да вас, браты-работнікі ўсіх сацыяльных клясаў, да вас суродзічы, што жывіцё ў нашых бацькаўшчынах, паняволеных і прыгнечаных камуністычна-расейскім імпэрыялістычным рэжымам, закрэпашчаныя і эксплёатаваныя вашымі верхаводамі ў хвабрыках, у калгасах і лягерах прымусовае працы.

У часе, калі мы жывём у вольных краінах заходняга сьвету, аддаем пашану вольнай творчай працы, Вы нашы дарагія прыгнечаныя браты, прымушаны ў гэты дзень 1-га траўня ўдзельнічаць у монструальных вайсковых і цывільных парадах і вітаць воплескамі вашых прыгнятальнікаў, абяцаць ім выконваць усё больш і больш празьмерныя нормы працы ў праграме сацыялістычнага спаборніцтва, накіненага вам рэжымам.

Замест пашаны да вашае годнасьці работнікаў і замест прызнаньня за вашую цяжкую працу, вас яшчэ больш эксплёатуе ненасытны рэжым камуністычнага дзяржаўнага капіталізму.

Мы знаем вашыя цярпеньні і вашу бяду, што вы іх так адважна перажываеце пад прыгнётам нявольніцкага рэжыму, які хоча зьнішчыць навет вашу асабовасьць і вашае сумленьне.

Мы хоць і зьяўляемся толькі эмігрантамі, маем магчымасьць сьвяткаваць разам з усімі работнікамі вольнага сьвету плодную працу, якая не паніжае чалавека, але ўшляхотнюе яго.

Мы вам **прысягаем** урачыста, што заўсёды будзем носьбітамі вашых імкненьняў, вашымі абаронцамі і вяшчальнікамі!

Мы зьвяртаемся з заклікам да ўсіх работнікаў вольнага сьвету, каб яны:

— памагалі нашым сябром-работнікам, запрыгоненым камуністычна-расейскім рэжымам, здабыць зноў іхнюю нацыянальную і сацыяльную свабоду;

— адкінулі хлусьлівыя клічы марксістоўскае навукі;

— змагаліся супраць эксплёатацыі работнікаў капіталізмам усіх колераў, а перадусім супраць камуністычна-дзяржаўнага капіталізму;

— ніколі не забываліся, што камуністычны рэжым ёсьць найчысьцейшаю формаю капіталізму і нявольніцтва.

Так мы гаворым да вас, сябры-работнікі вольнага сьвету, мы, што найлепш ведаем гэты прыгнятальны рэжым, бо тысячы з нас цярпелі пад ім доўгія гады.

Сябры ў вольным сьвеце — работнікі канцлягернага сьвету зьвяртаюцца да вас з-за зялезнае заслоны, каб вы ім памагалі і сталі ў іхняй абароне!

**Дарагія сябры, што маеце яшчэ волю, не забывайцеся ніколі аб тым, што сталася з шматлікімі работнікамі, якія калісьці перад вайною не паслухалі ў сваім часе заклікаў і асьцярогаў першых ахвяраў камуністычнага рэжыму. Усе яны сяньня плацяць вельмі дорага за калішнюю абыякавасьць.**

Сябры-работнікі ўсіх прафэсіяў, сыны паняволеных народаў, што жывіцё ў расьцярушаньні па ўсім вольным сьвеце і карыстаеце з гэтае волі:

— уступайце масава ў рады нашых нацыянальных арганізацыяў у лоне хрысьціянскага сындыкалізму, якія ёсьць адзінаю зарукаю свабоды і сацыяльнае справядлівасьці!

Так зарганізаваныя і аб'яднаныя з нашымі сябрамі ў краінах нашага пражыцьця, мы будзем больш пасьпяхова змагацца супраць усякага прыгнобліваньня работнікаў, супраць усіх формаў капіталізму.

Пазнаўшы ў цяжкіх умовах, што значыць прыгнятальны рэжым, змагайцеся з хлусьліваю навукаю марксізму на месцах вашае працы: ў заводах, у капальных, у фармах і агулам усюды.

Інфармуйце вашых сяброў працы аб жыцьці і змаганьні вашых братоў.

Усе супольна дапамагайма нашым братом зноў здабыць нацыянальную і сацыяльную свабоду, бо гэтага чакаюць ад нас нашыя бацькаўшчыны, нашыя народы, нашыя браты — прыгнечаныя работнікі.

**Няхай жыве 1-ае траўня — сьвята вольнае працы, праведзенае годна і ў пашане да людзкое асобы!**

# Агульны Зьезд ЗБА

Дня 30 травеня сёлета адбыўся сёмы з чаргі Агульны Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне. Сёлетні Зьезд прайшоў вельмі добра і адрозьніваўся ад папярэдніх тым, што прарабіў узапраўды салідную працу. Зьезд распачаўся а гадзіне 15-ай праслуханьнем малітвы «Магутны Божа», а скончыўся аж а гадзіне 20-тай адсьпяваньнем нацыянальнага гымну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Сябры ўстапаючай управы зрабілі справаздачу із сваей дзейнасьці: сакратар з агульнай дзейнасьці, а скарбнік зь фінансавай. Падчас справаздачаў былі робленыя сябрамі розныя запытаньні, на што атрымаліся вычэрпваючыя адказы. Пасьля дыскусіі на прапанову старшыні Наглядная Рады была зложаная падзяка ўстапаючай Управе за належнае выкананьне абавязкаў, узложаных на яе папярэднім Зьездам, і ўсеагульнымі воплескамі прызнанае абсалюторыюм.

У другой часты Зьезду адбыліся выбары новае ўправы: на старшыню быў выбраны паўторна сп. Уладзімер Другавец, а на сяброў управы — сп. сп. Аляксандар Літвінскі, Мікалай Ланкевіч, Леў Петраш і Аляксей Карповіч.

У канцы быў зрэдагаваны зьмест тэлеграмы, якая была высланая Яго Эксцэленцыі Прэзыдэнту Аргентынскай Рэспублікі генэралу Пэрону.

Зьезд закончыўся ў нязвычайна мілай сяброўскай атмасфэры. На заканчэньне была праведзеная зборка складак на падтрыманьне касы Згуртаваньня.

**К. Мацкевіч**

# Школьніцтва ў БССР

Менскае радыё 1-га чэрвеня, адзначаючы г. зв. міжнародны дзень абароны дзяцей, падало некаторыя статыстычныя дадзеныя аб школьнцтве ў Савецкай Беларусі. Паводля гэтае інфармацыі, у Беларусі адкрыта ў пасьляваенныя гады каля 800 дзіцячых садоў і ясьляў, у якіх выхоўваецца 400 тысяч дзяцей. У рэспубліцы ў мінулым навучальным годзе працавала 11.000 пачатковых, сярэдніх і 7-мігадовых школаў, у якіх навучалася адзін мільён 286 тысячаў дзяцей. На час школьных канікулаў у маляўнічых мясцовасьцях Беларусі прыгатаўляецца да прыёму дзяцей звыш 300 піянэрскіх лягераў і дзіцячых пляцовак, у якіх мае адпачыць за лета каля поўмільёна вучняў.

Пэўне-ж, лічбы імпануючыя і імі ўзапраўды можна было-б хваліцца, калі-б гэтай колькасьці ды адказвала якасьць. Толькі, на жаль, усе гэтыя дзіцячыя садкі, школы ды піянэрскія лягеры зьяўляюцца перадусім інструмэнтам варожага беларускаму народу камуністычнага выхаваньня й абнаглелай русыфікацыі. Савецкая прэса й радыё кажны дзень падаюць справаздачы аб ходзе выпускных і пераводных эгзаменаў у школах Савецкай Беларусі. Вось-жа аснаўным эгзамінацыйным прадметам на гэтых эгзаменах зьяўляецца расейская мова й расейская літаратура, затое беларуская мова й літаратура на эгзаменах недапушчаныя.

### ПРАДАЎЖЭНЬНЕ КОНКУРСУ

**Абвешчаны нядаўна ў нашай газэце конкурс Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня ад Бальшавізму на артыкул (скрыпт) «Тэарэтычныя асновы Марксізму—Ленінізму—Сталінізму» з узнагародай 500 даляраў прадаўжаецца з 15 чэрвеня, да якога трэба было спачатку прысылаць скрыпты на конкурс, да 1 ліпеня 1954 году.**

# „Украінські Самостыйнык" яшчэ аб Вільні

У паважным украінскім нацыяналістычным воргане «Украінскі Самостыйнык», што выходзіць у Мюнхэне, у нумары за 18. 4. 1954 г. быў паявіўся артыкул п. н. «Неактуальная дыскусія», у якім, у форме прыкладу, было сказана, што не падлягае ніякай дыскусіі прыналежнасьць Вільні да Летувы. На такую рэвэляцыю зарэагавала «Бацькаўшчына» (Но. 18. за 9. 5. 1954 г.) у артыкуле «Да ведама «Украінскага Самостыйныка», у якім была коратка даказаная прыналежнасьць Вільні да Беларусі, як з гледзішча этнаграфічнага, гэтак і гістарычнага, а не да Летувы.

Вось-жа «Ўкраінскі Самостыйнык», у нумары за 30. 5. 1954 г., зьмясьціў артыкул п. н. «Дыскусія пра Вільню», у якім поўнасьцю передрукаваў успомнены наш артыкул «Да ведама «Украінскага Самостыйныка», дадаючы да яго наступную заўвагу:

«Наш адказ: справа Вільні ёсьць перадусім справай між Беларусьсю й Летуваю і ня сьлед Украінцам да яе палагоджаньня ўмешвацца. Маем толькі адну гарачую надзею, што гэтая справа будзе таксама мірна і дружалюбна ў вагульным супольным інтарэсе абароны перад маскоўскім імпэрыялізмам палагоджаная між Летувісамі й Беларусамі, як падобныя спрэчныя пытаньні будуць пабрацку вырашаныя між Украінцамі й Казакамі. Ня будзем Маскве даваць відовішча рассвараных «нацыяналаў» і тым абгрунтоўваць іхную дзікую прэтэнсію, што мусіць быць між намі «хтосьці трэйці», хто трымаў-бы «лад» і запабег «разброду».

Такое становішча «Украінскага Самостыйныка» нас асабліва цешыць. А за тое, што ён перадрукаваў наш артыкул і гэтым паінфармаваў шырокія колы ўкраінскае грамадзкасьці, як узапраўды прадстаўляецца справа нацыянальнай прыналежнасьці Вільні, мы астаёмся яму вельмі ўдзячнымі.

### БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЯПЕРАДАЧЫ Ў АРГЕНТЫНЕ

**Стараньнем Згуртаваньня Беларусаў у Аргентыне будзе наладжаная другая з чаргі сэрыя беларускіх перадачаў цераз тры радыястанцыі ў Буэнос Айрэс, паймення:**

**1. Дня 27. 6. 1954 праз Л. Р. 5 «Радыё Эксцэльсіёр» а гадз. 9,30.**

**2. Дня 3. 7. 1954 праз Л. С. 6 «Радыё дэль Пуэблё» а гадз. 9,00.**

**3. Дня 3. 7. 1954 праз Л. С. 4 «Радыё Портэнія» а гадз. 17,45.**

### ДА ЎСІХ БЕЛАРУСАЎ

**У хуткім часе «Бацькаўшчына», пасьля сканчэньня друку твораў Власта (Ластоўскага), распачне перадрук аднэй з найпрыгажэйшых беларускіх паэмаў — «Сымона Музыкі» Якуба Коласа. Але ў нашым Выдавецтве ёсьць толькі Праскае выданьне «Сымона Музыкі» з 1942 г., якое зьяўляецца перадрукам савецкага выданьня паэмы, у якім цэлы рад месцаў антырасейскіх апушчаны. Для адкаўленьня гэтых месцаў нам патрэбнае першае выданьне першых трох частак «Сымона Музыкі» з 1918 г. Калі-б хто меў гэтае выданьне або ведаў, у каго ці ў якой бібліятэцы яно знаходзіцца, просьба паведаміць аб гэтым безадкладна нашае Выдавецтва.**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

# ШУКАЮЦЬ

**Братоў Сяргея й Міхася Шыёнкаў,** народжаных у вёсцы Вароцішча Нясьвіскага павету, якія выэмігравалі ў 1936 годзе ў Бразылію, шукае Аляксандар Маляўка. Весткі слаць на Адміністрацыю «Бацькаўшчыны».

**Аплата за пошукі:** адзін міжнародны паштовы купон за кажныя два радкі друку.

## Нашыя Прадстаўніцтвы

**Ангельшчына:**
**Mr. Aleksander Lašuk,** 97 Moore Park Road, London S. W. 6.

**Бэльгія:**
**Zora Savionak,** 19, Place Hoover, Louvain.

**Данія:**
**J. Lobejko** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv. Kobenhavn S.

**Францыя:**
Section Bielorussiene de C.F.T.C. 26, Rue de Montholon, Paris 9.
b) **Bonifacy Prytycki,** 17, rue Roger Salengro Lys les Lannoy (Nord).

**Швэцыя:**
**Basil Lukaszyk** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.

**Аргентына:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina.** Calle Coronel Sayos 2981, 4 de Jurio, Prov. Buenos Aires.

**Аўстралія:**
**Mr. Donat Jackievič,** 60 Fisher St., East Brisbane, Q-ld.
b) **Mr. L. Pašynkouski,** 60 Stawell St. Burnley, Melbourne, Vic., Australia.
c) **Mr. Jan Čarneckj,** 306, Sandgate Rd., Shortland, N.S.W.
d) **Filip Dareuski, 18 Vindsor St., East Perth, W. A. Australia.**

**Бразылія:**
**Carlos Cimafejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba - Parana.

**Канада:**
**Mr. M. Racycki,** 111 Lindsey Ave, Toronto, Ont.

**ЗША:**
a) **Mr. B. Danilovich,** 222 Suydam St., New Brunswick, N. J.
b) **Mr. M. Serdeczenko,** 7851 Sherwood Ave, Detroit 11, Mich.
c) **Mr. V. Duniec, 2502 W. 7. St., Cleveland, Ohio.**
d) **Mr. E. Budzka,** 2042 W. St. Paul Ave Chicago 47, Illinois

**Новая Зэляндыя:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88, Hercules Drayve, Roxburg-Hydro.

**З гэтых Прадстаўніцтваў просім у пасобных краінах выпісваць «Бацькаўшчыну» й на іх адрас перасылаць за яе належнасьць.**

То-ж сьпявае з кветкай кветка —
Вочы вырачыць пастух,
На Сымонку пазірае.
— Ой хітрэц! ото лайдак:
Чаго ён ня выдумляе!
Бач, знайшоў якіх сьпявак!
— Хіба-ж краскі не сьпяваюць?
— А які ўжо іх там сьпеў?
Краскі голасу ня маюць:
Пройдзе ветрыку павеў,
Закалышуцца — ня ўчуеш...
Кінь ты, хлопча, мары сьніць!
— Ат, дзядуня, ты жартуеш,
Каб малога падражніць!
— Ой дзіўны ты! — дзед гаворыць
І пакруціць галавой,
А Сымон сваё гуторыць,
Глядзючы ў даль прад сабой.
— Дзед, зірні: куды-та хмаркі,
Унь ідуць, ідуць, як дым?
Там так добра, вольна, ярка,
А яны ідуць? Ці ім
Надта горача ад сонца,
Ці іх гоніць хто адтуль?
Ці ім блага там бясконца?
І скажы, дзядок, адкуль
Хмаркі гэтыя выходзяць?
Так утворан гэты сьвет.
Грэе сонца, ходзяць хмары,
Носяць сьнег і дождж, і гром,
Ночкай вынікнуць стажары,
І бяздонныя абшары
Зоркі высьцелюць руном
Ды на поўдзень ад паўночы
Шлях праложаць бяз прысад,
А куды, куды ён крочыць,
Хто адкажа табе, брат?
Вее вецер і сьціхае,
Як увойдзе ў берагі;
Па зіме вясна ўбірае
Твар зямлі, лясы, лугі;
І прачнецца ўсё дазваньня,
Жыцьцё ўзбудзіцца ў зямлі,
І бяз нашага пытаньня
Колас вырасьце ў ральлі. —

Хлопчык слова не праронiць.
Дзеду ў вочы ён глядзіць
І галоўку чуць прыклоніць,
Не варушыцца, маўчыць.
— Не, дзядок: ня тое, дзедку!
А ты вось скажы: чаму
Вецер песьні пяе ўлетку,
Плача-ж жаласна ўзіму?
— Схамяніся, Бог з табою!
Унь ужо аб чым спытаў! —
І круціў дзед галавою,
І плячыма паціскаў.
— Вось дык хлопец! скуль узяўся?
Не, сапраўды ты дзіўны:
Ці разумным ты прыдаўся,
Ці з уроды ўжо дурны?
Не: зь цябе, відаць, штось выйдзе...
Кінь ты гэтую думу —
Усё будзе ў сваім відзе,
Сам пазнаеш, што й чаму.
Вось, каб ты вучыўся змаля,
Кніжку ў рукі-б даць табе! —
Дзед і хлопчык замаўкалі,
Кожны думаў па сабе.
Раз Сымонку давялося
Чуць як граюць дудары,
І яму тады здалося,
Што да гэтае пары
Ён дзіцятка быў дурное,
Што ня жыў ён, а блукаў,
Што цяпер пазнаў ён тое,
Чаго шчыра так шукаў.
Слухаў хлопчык тое граньне,
Пад сабой ня чуў зямлі,
Бо ў тых зыках чараваньня
Сьпевы ўласныя плылі.
Струны сэрца ў ім дрыжалі,
Як дрыжыць блісканьне зор
У надземнай цёмнай далі,
І музыкам падпявалі
І ляцелі на прастор
У салодкім заміраньні
Ясным зоркам на спатканьне.
Дудары ўсё перайгралі,
Дальш у сьвет яны пашлі,
А ў душы яшчэ сьпявалі
Зыкі дзіўныя, плылі,
Разрасталіся й далёка
Душу вабілі сабой
І нясьлі яе высока
Над гаротнаю зямлёй.
Зыкі душу напаўнялі,
І куды-б ён ні пашоў,
Над ім гралі і сьпявалі
Дуды, песьні дудароў.
Разоў пяць губляў авечкі,
Шкоды ў полі нарабіў,
Здрасаваў шнуроў тры грэчкі,
Вератнік аўса прыбіў!
І за тое-ж дасталося
Ад суседзяў, ад бацькоў.
Многа выцярпець прышлося
Папіханак, кулакоў!
Толькі-ж хлопчык ня чуў болю,
І ня тым занят быў ён:
Зыкі смутку, песьні волі
Чуў хлапчук з усіх старон.
І цяпер, як няпрытомны,
Стаў на гонях і стаіць,
Як выгнаньнік, як баздомны,
Што ня мае дзе схіліць
Галаву сваю сірочу,
І надзей у ім няма.
Сам хлапчук ня знаў, што хоча,
Дзе, аб чым яго дума.
Ён ня ведаў, што зь ім стала —
Сэрца поўніў нейкі сьпеў,
Думка дзесь ня тут блукала,
Дух як-бы кудысь зьляцеў.
— Эй, Сымон... Заснуў, ці што ты?
— Ато ты... Ах, мой дзядок!...
— Дзе-ж авечкі... Ой блазнота...
Ну, й дадуць табе, браток! —
Тут Сымон ахамянуўся,
Бегчы кінуўся кулём.
— Стой! куды ты?... Не ачнуўся!
Унь авечкі, за аўсом! —
„Зьбілі хлопца зусім з тропу,
Як ён рух яшчэ схаваў!
Б'юць, як цэпам тым па снопу!"
Дзед з сабою разважаў.
— Ну што думаў, брат Сымоне?
— Ах, дзядуня, любы мой!
Дудары тут шлі сягоньня...
Як-жа гралі! а-ё-ёй!
— Дудары? — стары спытаўся: —
Гм!... дык унь што... пачакай!
Ты, відаць, ня просты ўдаўся,
Дам табе я нешта... грай!
Вось пакуль што, мой бядача,
Дудку там табе я ў дар: —
Ты — музыка брат, няйначай,
Будзеш некалі дудар. —
Расхінуў тут дзед халат
Ды зь кішэні-бакавушкі
Выняў дудку весялушку
І зграў на гэты лад:

„Сьвіньні ў рэпе,
Сьвіньні ў рэпе,
Парасята ў грэчцы,
А музыка
Без языка
Каля печы трэцца!.."

І яшчэ дзед разоў пару
Спрытна пальцамі прабег.
У Сымонкі ў вочках, твару
Бегаў ціхі-ціхі сьмех.
Ён, працягшы сваю ручку,
Вочак зь дзеда ня спускаў.
— На, Сымоне, маеш штучку!
Грай здаровы! — дзед сказаў.
Як-бы дар які там зь неба,
Дудку тую ўзяў Сымон.
— Намачыць яе, брат, трэба:
Гагасьнейшы будзе тон.

**(Далей будзе)**